# Тыднёвік Магілёўскі




**№ 15 (156) 12 — 18 красавіка 2002 г. Кошт 100 руб.**


# На 16-ым годзе нялёгка павярнуцца да адказнасьці





Фота IREX

*Некалькі дзён у нашай краіне з адмысловай "чарнобыльскай" місіяй праведзе намесьнік Генэральнага сакратара ААН у гуманітарных пытаньнях Кенза Ашыма.*

*Адсюль ён накіраваўся ў Жэнэву, дзе адбудзецца канфэрэнцыя краінаў-донараў і арганізацыяў, якія апякуюцца праблемамі постчарнобыльскай рэабілітацыі. Што тычыцца самой ААН, то сп.Ашыма заявіў, што яна гатовая падвоіць намаганьні ў справе мабілізацыі міжнароднай добрай волі, рэсурсаў і падтрымкі дзеля эфэктыўнага пераадоленьня гуманітарных наступстваў аварыі на ЧАЭС. Беларусь тут знаходзіцца ў прыярытэтным сьпісе.*

*Аднак аанаўскі пасланьнік адначасна заўважыў, што "гэта нялёгкая задача, паколькі зацікаўленасьць краінаў і арганізацыяў-донараў апошнімі гадамі зьнізілася". Таму, па яго ных словах, неабходна стымуляваць новы старт у мабілізацыі міжнароднай донарскай дапамогі й супрацоўніцтва. Але гаворка больш ня можа весьціся пра наўпроставую перадачу сродкаў "для выжываньня". Цяпер справа вядзецца пра новае разуменьне праблемы. Задача ў тым, каб "стварыць атмасфэру, якая дазволіла б людзям з пацярпелых рэгіёнаў узяць адказнасьць за сваё жыцьцё на сябе й дамагчыся ўстойлівага эканамічнага разьвіцьця".*

*Прадстаўніцтва ААН у Беларусі ў межах гэтай новай канцэпцыі ўжо прапанавала тры адмысловыя праекты, зь якімі пагадзіўся й урад. Першы праект ёсьць асновай для заахвочваньня вясковага прадпрымальніцтва. Другі датычыцьць стварэньня і разьвіцьця крэдытных саюзаў. А трэці прысьвечаны паляпшэньню здароўя дзяцей – праз лепшае інфармаваньне пра тое, як дзеці павінны клапаціцца пра сябе.*

*Ці будуць праекты пасьпяховымі, пакуль меркаваць цяжка. Ува многіх рэгіёнах, моцна зачэпленых трагедыяй, папросту не засталося людзей, здольных на дзеяньні і адказнасьць. Шмат дзе людзі прызвычаіліся да жыцьця і гаспадараньня на рызыкоўных тэрыторыях, бо вымушаныя былі пагадзіцца з "новай канцэпцыяй" адміністрацыі краіны, якая некалькі гадоў таму была выкладзеная надзвычай "даходліва і каротка": жывеце, дзе хочаце!.. Вярнуць людзей да адказнасьці за ўласныя лёсы, за свой кут і за сваіх нашчадкаў зараз вельмі нялёгка.*

**Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па сацыяльных пытаньнях**

## Статыстычны дадатак

**Паводле доктара навук, прафэсара Васіля Несьцярэнкі** як мінімум чвэрць тэрыторыі краіны застаецца забруджанай. Да 20% насельніцтва вымушаныя выбраляць і ўжываць радыёактыўныя прадукты харчаваньня.

**У Слаўгарадзкім і Чэрыкаўскім раёнах 70% грыбоў і ягадаў** утрымліваюць надзвычай высокі ўзровень радыёнуклідаў, які ў некалькі разоў перавышае дапушчальны. Асноўнай прычынай высокага ўтрыманьня гэтых небясьпечных элемэнтаў у арганізмах тамтэйшых жыхароў ёсьць некантраляванае ўжываньне гэтых "дароў леса".

**Рак шчытападобнай залозы застаецца ў найбольш забруджаных раёнах** вобласьці (Быхаў, Слаўгарад, Краснапольле, Клімавічы, Касьцюковічы, Чэрыкаў) асноўнай праблемай насельніцтва. Колькасьць хворых расьце. Паказчык гэты рэзка падвысіўся за апошнія 3 гады.

**Перад выбухам на ЧАЭС мэдыкі акрэсьлялі фізічны стан** дзіцячага насельніцтва вобласьці як "практычна здаровы" на 85%. Цяпер гэты паказчык у пацярпелых раёнах не перавышае 5-15%.

**РОЗГАЛАС ДНЯ ВОЛІ**

# Самы нялюбы дзень для ўлады

***У Менску завяршылася вялікая "судовая кампанія" пакараньня ўдзельнікаў сьвяточнага шэсьця ў Дзень Волі 25-га сакавіка.***

Суд не апраўдаў ніводнага затрыманага ў той дзень. Судзьдзі Натальля Вайцяховіч і Таццяна Паўлючук разглядалі справы 33-ох чалавек восем дзён запар. У выніку чатыры чалавекі – лідэр Маладога Фронту Павал Севярынец, а таксама Вячаслаў Сіўчык, Зьміцер Дашкевіч і Віктар Кавешнікаў – былі прыгавораныя да 10-ці сутkaў утрыманьня за кратамі. Цімох Дранчук, які пакінуў залю суда яшчэ да абвешчаньня прысуду, таксама павінен адседзець 10 суткаў у спэцпрыёмніку-разьмеркавальніку. Яшчэ 16 чалавек пакараныя штрафамі па 20 мінімальных заробкаў, а маладафронтавец Андрэй Ачапоўскі – штрафам у памеры 1,5 млн. рублёў. Астатнія атрымалі адміністратыўныя папярэджаньні. Некаторым з пакараных адміністрацыі іхных прадпрыемстваў і ўстановаў пагражаюць цяпер звальненьнем з працы.

Вядомая дэмакратычная актывістка Людміла Гразнова, якая прысутнічала на судовых паседжаньнях, наступным чынам пракамэнтавала судовыя вынікі Дня Волі: "Нашая краіна і міжнародная супольнасьць яшчэ раз убачылі і адчулі, што тут робіцца, у гэтай частцы Эўропы. Улада не дазволіла мірна прайсьці праспэктам звычайным людзям з кветкамі ў руках. Іх брутальна зьбілі і трымалі цэлую ноч за кратамі на нарах, у брудзе, у вельмі дрэнных умовах. Потым вось гэтыя суды... Улада вельмі баіцца масавых акцыяў. Яна вельмі ня любіць гістарычны Дзень абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Яна хацела б вытравіць з народнай памяці гэтую дату. Улада напалоханая тым настроем, які сёньня існуе ў грамадзтве...".

Яшчэ дзясяткі людзей былі затрыманыя на Дзень Волі ў іншых гарадах краіны. І там суды – нібыта па агульным загадзе – абышліся зь імі вельмі жорстка.

*Паводле радыё "Свабода"*

**P.S.** У Магілёве, на шчасьце, затрыманьняў не было. Але ж і масавых акцыяў – не было таксама. Дзень Волі, як мы папярэдне паведамлялі, быў адзначаны кожнай дэмакратычнай арганізацыяй па-свойму. Дагэтуль можна яшчэ пабачыць на дрэўцах уздоўж Першамайскай папяровыя нацыянальныя сьцяжкі, замацаваныя маладымі патрыётамі напярэдадні сьвята.



## Свой погляд на тыдзень вобласьці

**Праверка будаўнічага комплексу Бабруйска засьведчыла, што ў краіне адраджаецца сыстэма прыпісак і падману. Паводле афіцыйнай статыстыкі, мінулым годам у горадзе здадзена каля 70 тыс. кв. мэтраў жыльля, што перабольшыла паказчыкі папярэдняга году ажно на 7%. Але кантралёры дазналіся, што палова гэтых квадратных мэтраў – суцэльныя недаробкі. І зноў, як заўсёды, ніхто ня кажа аб сапраўдных, сутнасных прычынах "новай старой зьявы".**

**Па словах Сымона Гудака, дырэктара Беларускага навукова-дасьледчага геолага-разьведвальнага інстытуту, Магілёў далучаны да тых беларускіх гарадоў, якія мусяць забясьпечваць сябе вадой з уласных падземных запасаў. Вядома, аднак, што тут патрэбныя сур'ёзныя капіталаўкладаньні, з чым у нас цяпер дрэнна, ня тое што з запасамі вады. У бягучым годзе, тым ня менш, заплянаваныя будаўнічыя працы па ўвядзеньні васьмі новых сьвердлавін водазабору. Каб іх сапраўды ўвялі, праблема дэфіцыту вады ў нашым горадзе згубіла б актуальнасьць.**

**Супрацоўнікі супрацьпажарнай службы канстатуюць узрастаньне пажарнай небясьпекі ў чарнобыльскай зоне нашай вобласьці. Цягам месяцу былі зарэгістраваныя 26 выпадкаў узгараньняў. Некалькі разоў пажарныя мусілі выяжджаць у адселеную вёску Дуброўка ў Касьцюковіцкім раёне. А ў Краснапольлі цалкам згарэла ваколіца вёскі Палуж. У адпаведных "органах" перакананыя, што падпалы зьдзяйсьняюць людзі й што зьбольшага прычыны – карысьлівыя. Самае жахлівае ва ўсім гэтым – наступствы пажараў, калі радыёактыўны пыл разьлятаецца навакол і пагражае здароўю людзей і тэрыторыяў. Увогуле, паводле статыстыкі Дзяржкамчарнобылю, ад пачатку вясны згарэла 232 дамы й тысячу гектараў травы.**

**Неўзабаве пасьля нядаўніх падзеяў на "хуткай дапамозе", калі кіроўцы два дні страйкавалі, дзяржкантралёры вырашылі праверыць працу ўсёй службы. Вынікі праверкі паказалі, што ў сярэднім магілёўцы чакаюць "хуткую" па 50 хвілін, а па вобласьці ня рэдкі паказчык і больш за гадзіну. Кантралёры, зразумела, хутка знайшлі вінаватых, бо відавочна, што абсалютная большасьць машын на станцыі – старыя, а чвэрць зь іх можна ўжо сьпісваць...**

*Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў Сымон Глазштэйн.*

## Цынізм побач са смуткам

***У панядзелак у Магілёве адбылася нарада кіраўнікоў абласных дэмакратычных палітычных і грамадзкіх арганізацыяў, прысьвечаная арганізацыі адзначэньня імі Дня смутку – 26-га красавіка.***

Паседжаньне вёў старшыня рады абласной арганізацыі БНФ Рыгор Костусеў. У ходзе дыскусіі было вырашана не падаваць уладзе афіцыйнай заяўкі на правядзеньне ў абласным цэнтры масавага мерапрыемства. Удзельнікі нарады ўлічылі пры гэтым звычайную практыку апошніх гадоў, калі гарвыканкам "дазваляе" дэмакратычным арганізацыям зьбірацца выключна ў "рэзэрвацыі" – на пляцоўцы каля ДК завода штучнага валакна. Вядома, што туды немагчыма прыцягнуць людзей. Нарада прыняла рашэньне замовіць у царкве і касьцёле традыцыйныя жалобныя імшы, а пасьля іх сабрацца ў цэнтры горада на традыцыйную ж Мінуту смутку і памяці са сьвечкамі ў руках.

Нарада прыняла да ведама й тое, што практычна кожная дэмакратычная суполка правядзе ў Дзень смутку тыя ці іншыя мерапрыемствы ў зоне сваёй адказнасьці ўласнымі сіламі.

Таксама быў прыняты адмысловы зварот на адрас гарадзкой адміністрацыі і кіраўніцтва "галіной культуры" з нагоды маючага адбыцца 26-га красавіка ў залі філярмоніі канцэрту расейскай музычнай парадысткі Алены Вераб'ей. Кіраўнікі дэмакратычных арганізацыяў разглядаюць факт правядзеньня ў жалобны дзень вясёлага канцэрту як праяўленьне непавагі да насельнікаў Магілёўшчыны, якія (разам з жыхарамі Гомельшчыны) найбольш пацярпелі ад чарнобыльскай трагедыі. Тым больш, што тэрыторыя нашай вобласьці дагэтуль не пазбавілася стратаў і гора, адлік якім пачаўся менавіта 26-га красавіка 1986г. У заяве, дзе ўтрымліваецца просьба адмяніць у жалобны дзень эстраднае шоў, выказваецца ўпэўненасьць, што расейская акторка ня ведае аб маральным настроі і зьмесьце для беларусаў Дня 26-га красавіка. Бо інакш бы яна, безумоўна, зрабіла на гэта папраўку ў гастрольным раскладзе. Аднак ня могуць не разумець гэтага кіраўнікі магілёўскай улады, якія самі пачнуць гэты дзень з ускладаньня кветак да чарнобыльскага мэмарыяльнага знаку ў Любужы. Дэманстрацыя зь іхнага боку цынізму ў адносінах да Дня нацыянальнага смутку, адзначаецца ў звароце, ня можа ня ўзрушыць любога нармальнага чалавека.

*Уласная інфармацыя*

## Народная пэтыцыя ў дэманстратыўнай форме

***У менскай штаб-кватэры БНФ адбылося паседжаньне ініцыятыўнай групы па правядзеньні "Чарнобыльскага Шляху".***

Асноўныя пытаньнем было вызначэньне месца й часу правядзеньня акцыі ў гадавіну катастрофы на ЧАЭС. Было вырашана падаць заяўку на акцыю 26-га красавіка а 17-й гадзіне. Месца збору – плошча Якуба Коласа.

Ініцыятыўная група распаўсюдзіла зварот да беларускага народу, у якім пералічаны шэраг патрабаваньняў да ўраду. Як паведаміў кіраўнік дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля" Генадзь Грушавы, зварот і масавае шэсьце – своеасаблівая ацэнка таго, што зрабіў і чаго не зрабіў урад адносна людзей, якія пацярпелі ад аварыі. Не зрабіў, на жаль, больш, чым зрабіў. Таму "Чарнобыльскі шлях" – гэта народная пэтыцыя да адміністрацыі краіны і зварот да сусьветнай супольнасьці. Ані адмяніць, ані забараніць Шлях немагчыма.

*Алесь ДАШЧЫНСКІ*

## Новая старая дактрына...

***Старшыні раённых, гарадзкіх і сельскіх выканаўчых камітэтаў разам з афіцэрамі ваенных камісарыятаў вобласьці абмеркавалі днямі арганізацыю "тэрытарыяльнай абароны".***

Трэба зазначыць, што войскі тэрытарыяльнай абароны – гэта новы від дзейнасьці Ўзброеных Сілаў. Працэс іхняга фармаваньня павінен быць завершаны да 2005г. Мяркуецца, што ўзначальваць адпаведныя тэрытарыяльныя "вайсковыя адзінкі" будуць старшыні выканкамаў (як гэта адбываецца сёньня з штабамі грамадзянскай абароны). Вось ім і чыталі лекцыі супрацоўнікі Генэральнага штабу.

Асабліва цікава вайсковыя выкладчыкі малявалі нюансы геапалітычнай сытуацыі. Паводле іх, ваенна-палітычную абстаноўку вакол Беларусі нельга назваць ідэальнай. Вонкавымі крыніцамі пагрозы былі названыя пашырэньне блёку NATO, лякальныя канфлікты, а таксама наяўнасьць у ЗША і NATO "манаполіі на ўжываньне ваеннай сілы". Паводле прагнозаў Галоўнага разьведвальнага ўпраўленьня Генштабу, "ЗША будзе й надалей праводзіць палітыку паслабленьня ролі Расеі – саюзьніка Беларусі – на міжнароднай арэне". Было адзначана таксама й памкненьне Злучаных Штатаў "да ізаляцыі Рэспублікі Беларусі ад Эўропы". У амэрыканскіх плянах – сьцьвярджалі вайсковыя начальнікі – "стварэньне адмысловага санітарнага кардону ад Балтыйскага да Чорнага мора, які аддзяліў бы Эўропу ад Расеі"...

Пасьля гэткіх заяваў не выклікала ніякага зьдзіўленьня тое, што беларуская апазыцыя (якая, зразумела, "фінансуецца ЗША") была названая ў ліку "унутраных крыніцаў пагрозы бясьпецы Беларусі".

*Ганна ЮРЧАНКОВА*

**Ад рэдакцыі.** Вядома, што ў вайскоўцаў любой краіны ёсьць свая рыторыка, свой слоўнік і свае ўяўленьні аб пабудове сьвету. Аднак жа ў тым, што тычыцца палітыкі, нідзе ў сьвеце вайскоўцы ня маюць ня тое што апошняга, але й нават звычайнага слова. Такім чынам, як гэта адбывалася на магілёўскім сэмінары, яны могуць разважаць выключна ў сваім вузкім асяродзьдзі, а не публічна. І гэта слушна, бо ваенныя людзі павінны быць аддадзеныя народу і краіне, а не ідэям. Бо апошнія маюць ратавальную здольнасьць зьмяняцца, абнаўляцца і нават пераварочвацца (дастаткова паглядзець на тую ж "саюзную Расею"). У вайскоўцаў – калі яны не занятыя ідэямі – у часы падобных пераменаў не наступае небясьпечнага адчуваньня "здрады". Бо на іхнай адказнасьці застаюцца народ і краіна. Прыклад з найноўшай гісторыі, які сьведчыць аб небясьпецы самой канцэпцыі ваеннага служэньня ідэям – Югаславія. Найлепш гэта ведаюць тыя генэралы гэтай былой краіны, якіх цяпер чакае міжнародны Гаагскі трыбунал, каб судзіць за ваенныя злачынствы...

## Дзелавая цікаўнасьць

***Напрыканцы мінулага тыдня Магілёў наведалі амбасадар ЭўраЗьвязу сп.Нарбэр Юстэм і кіраўнік эўрапейскага прадстаўніцтва праграмы TACIS сп.Рауль Люзенбэрг.***

Яны ў прыватнасьці сустрэліся зь сябрамі грамадзкага аб'яднаньня "Кола сяброў" і Жаночым цэнтрам падтрымкі і самаадукацыі. Замежных гасьцей шчыра цікавіла сытуацыя ў нашым рэгіёне, стаўленьне людзей да падзеяў грамадзка-палітычнага і сацыяльна-эканамічнага жыцьця краіны.

Са свайго боку яны распавялі пра тое, што робіць ЭўраЗьвяз у мэтах спрыяньня ўсталяваньню ў нашай краіне дэмакратыі. У прыватнасьці, гэта адна з мэтаў праграмы TACIS, якую ўжо працяглы час рэалізуе ў Беларусі эўрапейская супольнасьць па дамове зь беларускім урадам.

Замежныя дыпляматы пажадалі "трэцяму сэктару" вобласьці і горада творчасьці і актыўнасьці ў працы на карысьць грамадзтва і дэмакратыі.

*Уласная інф.*



## ШТО НА ТЫДНІ... У КРЫЧАВЕ



***Мясцовая недзяржаўная й незарэгістраваная газэта "Вольны горад" накіравала ў райвыканкам ужо чацьверты зварот аб узгадненьні юрыдычнага адрасу рэдакцыі.***

На тры папярэднія звароты ўлада дала адмоўныя адказы. Калі гэтаксама будзе й цяпер, то, на думку рэдактара выданьня Сяргея Няроўнага, гэта чарговым разам засьведчыць нежаданьне мясцовых уладаў даць жыхарам раёну доступ да альтэрнатыўнай крыніцы інфармацыі. Трэба дадаць, што без узгадненьня юрыдычнага адрасу газэта ня можа быць зарэгістраваная Дзяржаўным камітэтам па друку.

***У мінулыя выходныя ў горадзе пахавалі мясцовага жыхара, які загінуў у Санкт-Пецярбурзе, выпадкова апынуўшыся ў месцы бандыцкіх "разборак".***

Мужчына працаваў у паўночнай сталіцы Расеі будаўніком. А няшчасьце адбылося тады, калі ён зайшоў у звычайную краму, каб набыць харчы. Менавіта там праз хвіліну й распачалася страляніна...

*Андрэй КУЗЬМІН*




# Разгляд справы адсунуты на няпэўны тэрмін

***У аўторак раніцай перад Ленінскім раённым судом у Горадні сабралася шмат людзей. Да пачатку суду над журналістамі М.Маркевічам і П.Мажэйкам заставалася гадзіна.***

Міліцыя не дапускала ў будынак журналістаў з фота- і відэакамэрамі. Ахоўнікі спасылаліся на загад міністра ўнутраных справаў наконт таго, што "на важныя аб'екты" можна праносіць журналісцкую апаратуру толькі з дазволу кіраўніка ўстановы. А дазволу такога яны ня чулі.

Праз пэўны час па калідорах суда прабегла зьвестка аб тым, што судзьдзя, якому даверана весьці працэс, раптоўна захварэў. Сакратарка суду абвесьціла, што суд сапраўды пераносіцца на няпэўны тэрмін. Прысутныя ў залі, якіх сабралася ўдвая больш, чым было месцаў, адрэагавалі на гэтае паведамленьне з гумарам.

Справа ў тым, што перанос слуханьня справы нікога не зьдзівіў, бо лёгка прадбачыўся. Прысутнасьць на судзе польскіх, расейскіх і беларускіх журналістаў уладзе, зразумела, непатрэбная. Яна хоча зьбіць настрой цікавасьці да гэтай справы й дачакацца ад'езду замежных журналістаў з Горадні.

Мікола Маркевіч і Павал Мажэйка ў той жа дзень (нагадаем, што яны не затрыманыя, а знаходзяцца пад падпіскай аб нявыезьдзе) далі прэс-канфэрэнцыю. Асобна ад яе адвакат рэдактара "Пагоні" Сяргей Сурко паведаміў журналістам, што старшыня суду некалькі дзён будзе прымаць рашэньне, каму перадаць справу. Потым новы судзьдзя пачне яе нанова вывучаць. А ўжо потым будзе прызначаная дата пачатку працэсу.

А тым часам Мікола Маркевіч такім чынам пракамэнтаваў сытуацыю: "Я напросту шакаваны той бязглуздзіцай, якая адбываецца. Відавочна, што яны ня ведаюць, што з намі рабіць. Яны сфабрыкавалі справу і разумеюць, што адзіным законным рашэньнем павінен быць апраўдальны вырок. Але відавочна й тое, што ня хочуць гэтага рабіць. І зараз яны, я думаю, зачыніўшыся недзе ў кабінэтах, ліхаманкава вырашаюць: як выйсьці з гэтай брыдкай і бруднай сытуацыі. Бо гэтая сытуацыя ганьбіць беларусаў, наносіць шкоду міжнароднаму іміджу краіны. Аднак у мяне дадалося сёньня аптымізму (можа й заўчаснага). Прыйшло столькі народу! Калі й наступным разам будзе таксама, то схавацца нашым нядобразычліўцам будзе цяжэй. Мы ў стане запатрабаваць ад іх выкананьня іх жа законаў. Бо закон на нашым баку!"

*Сяргей АСТРАЎЦОЎ*

## Кантракт пад пагрозай

**Перасьлед гарадзенскіх журналістаў можа стаць прычынай пагаршэньня эканамічных стасункаў вобласьці з Падляскім ваяводзтвам Польшчы.**

Аб гэтым паведаміў на прэс-канфэрэнцыі ў Горадні тамтэйшы ваявода Марэк Стшалінскі. Дэлегацыя з Падлясься наведала Гарадзеншчыну, каб умацаваць гаспадарчыя і культурныя сувязі паміж рэгіёнамі. У выніку візыту было дамоўлена аб продажы ў Польшчу прадукцыі гарадзенскіх прадпрыемстваў. Аднак на сустрэчы з журналістамі пан Стшалінскі заявіў, што яму вядома пра тое, што "незалежныя мэдыі ў Беларусі маюць шмат праблемаў, і гэта можа значна ўскладніць адносіны паміж краінамі".

Старшыня аблвыканкаму Ў.Саўчанка адрэагаваў на гэта наступным чынам: "ня трэба распальваць абстаноўку". Ён пахваліўся тым, што сам чытаў "Пагоню" і ведае, што яны пісалі. Таксама Ў.Саўчанка распавёў пра тое, што папярэджваў рэдактара выданьня М.Маркевіча аб тым, што "яны пішуць тое, што ня трэба, што іх зашкальвае".

*Ірына ЧАРНЯЎКА*

## Не пытайся, хто наступны

**Выключна жорсткае пакараньне гарадзенскім журналістам вынес 5-га красавіка судзьдзя Ленінскага раёну Горадні Дземчанка.**

Шэсьць чалавек адпраўленыя на нары. Двое зь іх, Андрэй Мялешка і Стас Пачобут, у залі суда ў знак нязгоды з рашэньнем, якое сталася палітычнай распраўай над імі, абвесьцілі галадоўку.

Тры несанкцыянаваныя пікеты пратэсту супраць крымінальнага перасьледу супрацоўнікаў зачыненай уладамі "Пагоні" прайшлі адзін за адным у самых шматлюдных месцах Горадні 5-га красавіка. Гарадзенскія журналісты трымалі ў руках плакаты ***"Рукі прэч ад Маркевіча і Мажэйкі", "Быў бы журналіст – камэра будзе", "Я таксама пішу праўду пра прэзыдэнта. Я наступны?".***

Усе пікеты спынілі супрацоўнікі міліцыі. Былі затрыманыя 14 чалавек. На судовым працэсе абвінавачаныя сьведчылі, што ўзялі ўдзел у несанкцыянаваных пікетах з прычыны гарвыканкамаўскай забароны на правядзеньне дазволенага пікетаваньня ў абарону падсудных калегаў. Сьведкамі супраць затрыманых былі адны й тыя ж міліцыянты, хаця пікеты і затрыманьні пікетоўцаў адбываліся ў розных частках гораду.

Агульны дыяпазон пакараньняў быў ад 20-ці мінімальных заробкаў штрафу да 10-суткавага арышту. Людзей асудзілі за праяўленую імі натуральную прафэсійную салідарнасьць...

*Паводле www.pahonia.com*

## Слова ляўрэата

Даведаўшыся пра перашкоды, якія напаткалі Вас у Вашай прафэсіі, перасылаю ўсёй рэдакцыі "Пагоні" словы павагі і прызнаньня за Вашую трываласьць.

Я хацеў бы, каб Вашае змаганьне за свабоду слова сталася вядомым таксама і ў іншых дзяржавах Эўропы. Беларусь, незалежна ад межаў, створаных NATO ці ЭўраЗьвязам, ёсьць часткай Эўропы. Калі ў Беларусі што-небудзь дзеецца, гэта ня можа быць абыякава нікому з жыхароў іншых кантынэнтаў. Я перакананы, што справа, якой Вы служыце, пераможа раней ці пазьней, і будзе прызнана за важную ўсімі жыхарамі Беларусі.

*Чэслаў МІЛАШ, Нобэлеўскі ляўрэат*




# Не згінэла польская салідарнасьць

***Напярэдані гарадзенскага суду над журналістамі "Пагоні" у цэнтральных і рэгіянальных польскіх СМІ пракацілася сапраўдная хваля салідарнасьці зь беларускімі калегамі.***

**Мацей ЛУКАСЕВІЧ, галоўны рэдактар штодзёньніка Rzeczpospolita:** Мы падтрымліваем акцыю дапамогі журналістам беларускай газэты "Пагоня". Па прынцыпу, калі парушаецца свабода мэдыяў у нашай геаграфічна-палітычнай зоне, трэба яе бараніць. Самі маем пэўную боязь, што можа здарыцца ў Польшчы, хаця наша сытуацыя зусім непараўнальная з тым, што адбываецца ў Беларусі ці на Ўкраіне. Без свабодных, незалежных СМІ няма дэмакратыі.

**Павал ФОНФАРА, галоўны рэдактар штодзёнкі Życie:** Усе добрасумленныя і прыстойныя людзі павінны пратэставаць супраць таго, што адбываецца ў Беларусі. Палякі маюць тут спэцыяльныя маральныя абавязацельствы. Яшчэ ня так даўно мы самі чакалі падтрымкі з-за мяжы. Між іншым, дзякуючы добрасумленным і прыстойным людзям з Захаду, якія падтрымлівалі нас у гады змаганьня з камунізмам, мы маем сёньня ў Польшчы дэмакратыю і свабодныя СМІ.

**Марэк АСТРОЎСКІ, кіраўнік замежнай рубрыкі ў тыднёвіку Polityka:** Мы выказваемся за свабоду слова й ня маем ніякіх ілюзіяў наконт таго, як яна забясьпечваецца ў Беларусі. Вельмі спадабаліся мне словы аднаго з журналістаў газэты "Пагоня" аб тым, што ён хацеў падтрымліваць палякаў у Беларусі, каб праз гэта падтрымліваць саміх беларусаў. Зразумела, што ўсё ў Беларусі залежыць ад рашучасьці і мужнасьці людзей, якія там змагаюцца з рэжымам. Аднак/наш абавязак – падтрымліваць іх.

**Тадэвуш МАЗАВЕЦКІ, былы прэм'ер-міністар:** Мяне вельмі кранула інфармацыя пра рэпрэсіі, накіраваныя супраць беларускай газэты "Пагоня". Суд над журналістамі за крытычны артыкул пра прэзыдэнта – гэта несумненны прыклад парушэньня прынцыпу свабоды слова. Я поўнасьцю падтрымліваю абвінавачаных. У гэтым працэсе павінны ўдзельнічаць замежныя назіральнікі.

На падзеі вакол газэты "Пагоня" адгукнулася таксама Канцылярыя Прэзыдэнта Аляксандра Квасьнеўскага. Падаем ейную заяву, якая распаўсюджаная ў польскіх сродках масавай інфармацыі.

**Заява**

**статс-сакратара Дарыюша Шымчыхі ў справе працэсу, які пагражае выдаўцам і рэдактарам газэты "Пагоня".**

**2002.04.07.**

Ад імя Канцылярыі Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай Польскай выказваю глыбокую занепакоенасьць рэпрэсіямі, якія ўлады Беларусі прымянілі ў адносінах да незалежнай газэты "Пагоня", яе выдаўцоў, рэдактара і журналістаў. Праз пяць месяцаў пасьля рашэньня пракуратуры ў Горадні, якая забараніла выдаваць газэту, рыхтуецца судовы працэс супраць галоўнага рэдактара Міколы Маркевіча і журналіста Паўла Мажэйкі. Закіды ў іхны адрас маюць выключна палітычны характар. Такога тыпу працэс поўнасьцю пярэчыў бы стандартам свабоды, дэмакратыі і законнасьці.

Свабодны голас грамадзкай думкі, выяўлены праз СМІ – у тым ліку незалежныя і апазыцыйныя ў адносінах да ўлады – не павінен абмяжоўвацца ў ніякай краіне. Польшча, якая прайшла нялёгкі шлях ад таталітарнай сыстэмы да дэмакратыі і прававой дзяржавы, якая дала пачатак дэмакратычным пераменам у Цэнтральна-Усходняй Эўропе – асабліва адчувае адказнасьць за тое, каб зьберагаць гэтыя вартасьці, якія даюць сэнс і годнасьць жыцьцю людзей, нацыяў і дзяржаваў.

Горадня знаходзіцца толькі за 100 кілямэтраў ад польскай мяжы. Мы не павінны абыякава прыглядацца да дрэннай палітычнай практыкі, якая абмяжоўвае правы нашых суседзяў.

*Агляд падрыхтаваў Аляксей ДЗІКАВІЦКІ*

## Плюралістычныя вы нашы...

**Вайна супраць журналістаў набывае ў краіне ўсё больш шырокі размах.**

Спыніць яе могуць ня толькі міжнародны ціск на ўрад, які ўсё больш мацьнее, але й прафэсійная і грамадзкая салідарнасьць унутры краіны. Ці ёсьць яна ў нашым асяродзьдзі?..

**Лілія Ананіч, намесьніца міністра інфармацыі РБ:** Відаць, ненармальна, што сёньня ў СМІ друкуецца інфармацыя, якая зьяўляецца падставай, каб улады выносілі жорсткія рашэньні. Канешне, гэта дрэнна, калі судзяць журналістаў. Але давайце гаварыць пра два бакі аднаго мэдалю: свабода прэсы й адказнасьць. Калі былі падставы закрыць гэтую газэту (рашэньне суду, як прадстаўнік дзяржаўнага органу, я ня буду камэнтаваць), значыць ёсьць далейшы працяг у разглядзе гэтай справы.

**Леанід Екель, старшыня Беларускага саюзу журналістаў** (на мове, якой карыстаецца сп.Екель): К сожалению, я был в командировке и поэтому не слышал о случившемся. Конечно, плохо, что задержали людей, но на эту ситуацию можно ведь посмотреть и изнутри. Что касается "Пагоні", я не могу комментировать ситуацию, поскольку не знаком ни с редактором газеты, ни с сотрудниками. А это ведь тоже важно.

*Паводле інф. крыніцаў*



КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

# Расьце напружаньне

**З надыходам цяпла шпарка аднавілася будаўніцтва кальцавой дарогі ля Курапатаў.**

Аднак дагэтуль ня вырашаная праблема, што рабіць з асьвечанымі крыжамі, якія цяпер трапілі ў насып дарогі. Сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі – БНФ наладжваюць разам з абаронцамі суботнія талакі па навядзеньні парадку на тэрыторыі, прылеглай да будаўнічай. Справа ў тым, што дарожнікі цяпер шырокім фронтам вядуць земляныя работы, якія ставяць пад пагрозу існаваньне народных крыжоў, што пазначаюць межы мэмарыялу.

"Крыжы, – тлумачыць кіраўнік штабу абаронцаў Сяржук Высоцкі, – нельга прыбіраць, вырываць зь зямлі. Фактычна будаўнікі, а дакладней – улада, самі сябе паставілі ў тупік. Яны працягваюць насыпаць трасу зьверху. З другога боку, каб разараўняць насып, трэба зрушыць крыжы". С.Высоцкі пакуль таксама ня бачыць выйсьця з гэтай сытуацыі. Ён сьведчыць толькі пра тое, што абаронцы безумоўна не дазволяць кранаць крыжы.

Адное можна сказаць на сёньня: напружаньне расьце.

*Ганна СОУСЬ*

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Яшчэ ня высахлі радкі прысуду

***Прадстаўнікі дэмакратычнай грамадзкасьці Асіповічаў накіравалі заяву ў раённую пракуратуру з патрабаваньнем прыцягненьня да адказнасьці выканаўцу абавязкаў начальніка Асіповіцкай міліцыі Аляксандра Клімянкова й некалькіх ягоных падначаленых.***

Як сьцьвярджаюць аўтары заявы, падчас сьвяточнай акцыі з нагоды Дня Волі, якая адбылася ў горадзе 24-га сакавіка, міліцыянты на чале з А.Клімянковым затрымалі грамадзяніна Генадзя Круцiліна. Прычым зрабілі яны гэта без законных падставаў. У пастарунку спадара Круцiліна абвінавацілі ў "зьяўленьні на плошчы ў нецьвярозым стане і абразе начальніка раённай міліцыі". Паводле сьцьвярджаньня затрыманага, на працягу васьмігадзіннага (!) утрыманьня ў пастарунку зь ім абыходзіліся надзвычай жорстка, ужываючы мэтады фізычнага ўздзеяньня. Пры гэтым яму адмаўлялі ў накіраваньні на мэдычную экспэртызу.

*Алесь СЕРДЗЮКОЎ*

**P.S.** Тым часам у Менску завяршыўся судовы працэс над групай міліцыянтаў, якія абвінавачваліся ў зьбіваньні і катаваньні затрыманых. Гэтыя афіцэры (!) былі прызнаныя вінаватымі й сталі, здаецца, першымі міліцыянтамі, асуджанымі ў падобнай справе ад часу абвешчаньня незалежнасьці краіны ў 1991г. Сьледзтва і судовы працэс з-за "міліцэйскай салідарнасьці" ішлі вельмі нялёгка. Присуд быў успрыняты ў праваахоўных органах, як гаворыцца, неадназначна. Таму многія з тых, хто добра знаёмы з нораваміі нашай міліцыі, мяркуюць, што яна можа стаць на шлях своеасаблівай "помсты". Ці не пра гэта сьведчыць асіповіцкі выпадак?..

АКТУАЛЬНЫ РОЗДУМ

# Альбо платна, альбо...

***Вядомая ў Магілёве грамадзкая арганізацыя "Лекарскі саюз" выдала з дапамогай ГА "Кола сяброў" чарговы нумар бюлетэню "Калегі". Пашанцуе тым, хто здолее прыдбаць гэтае, на жаль, абмежаванае ў сваім накладзе выданьне. З дазволу рэдкалегіі бюлетэню мы друкуем артыкул, які "знутры" асьвятляе тэму, што найбольш хвалюе сёньня грамадзтва.***

Многія думаюць, што галоўнае пытаньне нашай мэдыцыны – "Як вылячыць хворага?". Але гэта ўжо ня так. Галоўнае пытаньне сёньня – "Дзе знайсьці грошы?". Бо лячыць хваробу, калі на гэта ёсьць сродкі, яшчэ паўбяды. А вось як вылячыць яе, калі пусты бюджэт...

Адным словам, нашай ахове здароўя не зусім афіцыйна, але на самым высокім узроўні пастаўлены дыягназ: "так жыць нельга", і загадана зарабляць грошы сваімі сіламі. Пакуль гэта толькі 30% ад прадугледжанага на мэдыцыну бюджэта. Аднак гэта азначае, што кожны адзін з трох хворых павінен лячыцца платна, альбо – што кожны хворы мусіць аплаціць са сваёй кішэні 1/3 частку атрыманых паслуг. І гэта пры тым, што Канстытуцыйны суд нядаўна пацьвердзіў права любога грамадзяніна Беларусі на бясплатную мэдыцыну. Вось такі негалосны беларускі "дыягназ", такія парады па яго лячэньню й такая афіцыйная дактрына. А ў выніку – да іншых канстытуцыйных "заваёваў" (на працу, жытло, свабоду слова і г.д.) дадалося яшчэ адно псэўда-права.

Калі разважаць тэарэтычна, то плаціць трэба за ўсё – да такой высновы сёньня прыходзяць многія людзі, і мэдыцына тут не выключэньне. Тым больш мэдыцына сучасная, высокатэхналягічная і энэргаёмістая. Але толькі псыхалягічнай гатовасьці аддаць свае грошы замала. Сама мэдыцына павінна мець падрыхтаваную арганізацыйную структуру ды механізмы ацэнкі рэальных коштаў за паслугі.

Падаецца, што ўва ўсім гэтым працэсе ёсьць тры зацікаўленыя бакі. Першы – дзяржава, якую фінансовыя цяжкасьці вымушаюць шукаць спосабы эканоміі бюджэтных сродкаў. Другі – пацыенты, якія зацікаўленыя ў паляпшэньні якасьці мэдпаслугаў. І трэці – лекары, якія хочуць большых матэрыяльных даброт за сваю працу. Аб'ядноўвае ўсіх тое, што нікому не хапае грошай, і амаль нікога не задавальняе сёньняшні стан мэдыцынскай галіны.

Але якіх канкрэтна новаўвядзеньняў патрабуюць бакі? Пакуль ініцыятарам пераменаў выступае дзяржава, што само па сабе выклікае насьцярожанасьць. Бо да ўсяго не відаць там прынцыповых, кампэтэнтных рэфарматараў, якія маглі б узяць на сябе ініцыятыву й стварыць праграму комплексных і доўгатэрміновых пераўтварэньняў. Што да пацыентаў, то часам нават маючы грошы яны ня могуць атрымаць адэкватную дапамогу, бо ня ведаюць, да каго і як зьвярнуцца. Даволі складанае стаўленьне сёньня да яшчэ ня вызначаных новаўвядзеньняў у лекарскім асяродзьдзі.

Па-першае, многія зь іх маюць нізкі прафэсійны ўзровень, бо ў савецкай (як і ў сёньняшняй!) сыстэме адсутнічала канкурэнцыя ды іншыя эфэктыўныя стымулы да набыцьця новых ведаў і навыкаў. Па-другое, яшчэ за савецкім часам лекары мелі адносна нізкія даходы ня толькі ў параўнаньні з замежнымі калегамі, але і з нашай тэхнічнай або навуковай інтэлігенцыяй. Кампэнсавалася гэта ў пэўнай меры "удзячнасьцю" пацыентаў, якія такім чынам даплачвалі лекарам, тым самым падвышаючы іхны сацыяльны статус. Боязь згубіць вось гэты "прыварак" таксама спыняе некаторых дактароў. Бо ў платнай мэдыцыне, дзе разьлік ідзе праз касу, "каньячна-цукерачныя" адносіны губляюць усялякі сэнс...

Увогуле, я лічу, што сёньня ёсьць два спосабы нешта зьмяніць у мэдычнай сфэры. Першы "спосаб" – так званы віцебскі экспэрымэнт, калі бюджэтныя грошы аддаюцца на ўстановы, якія ўсімі сіламі пачынаюць іх эканоміць: менш робяць дасьледаваньняў, непатрэбных кансультацыяў, скарачаюць тэрміны лячэньня, абыходзяцца меншай колькасьцю супрацоўнікаў і г.д. У выніку – сэканомленыя грошы "зрэзаюцца" зь іх бюджэту, і старанасьць прыносіць "стаханаўцам" толькі шкоду.

Другі варыянт – тое, пра што зараз шмат кажуць: платныя паслугі. Праўда, пакуль тут пытаньняў больш, чым адказаў. Напрыклад, кошт паслугаў складаецца паводле малазразумелых крытэрыяў і не заўсёды адлюстроўвае рэальныя затратам. Да таго ж, зацьверджаны раз на год, гэты кошт папросту не пасьпявае за інфляцыяй. Няма й патрэбных жорсткіх правілаў (а тым больш законаў) на конт таго, калі адну і тую ж паслугу можна рабіць за грошы, а калі – "за так". Практыка паказвае, што ў "бязплатнікі" часьцей трапляюць якраз не малазабясьпечаныя катэгорыі грамадзянаў, а зусім наадварот. Немалаважна таксама, што платныя паслугі ў большасьці выпадкаў ідуць "давескам" да бязплатных, і тыя 10-15% зь іх кошту, якія адлічваюцца на заробак пэрсаналу, не выклікаюць у яго вялікага энтузіязму. Такім чынам, выгоду з падобнай платнай мэдыцыны атрымаюць ня хворыя ды лекары, а бадай толькі лячэбныя ўстановы, якія крыху разьлічуцца з даўгамі, а таксама дзяржава, якая, магчыма, здолее нешта сэканоміць у бліжэйшыя год-два.

Безумоўна тое, што такія квазі-рэформы тояць небясьпеку, бо вядуць да сацыяльнай нестабільнасьці. І яшчэ: яны падрываюць давер да будучых сур'ёзных пераўтварэньняў у галіне, напрыклад – да ўвядзеньня страхавой мэдыцыны.

Словам, "дарогу рэформаў" мы абралі доўгую і склізкую. Практычна, цяперашні выбар гучыць так: мэдыцына наша будзе альбо платнай, альбо... яе зусім ня будзе.

*Васіль АЎРАМЕНКА*

НЯМІГА: ПРАЦЯГ ТРАГЕДЫІ

# Што скажа Генпракуратура?

***Прадстаўнікі праваабарончай арганізацыі "Прававая дапамога насельніцтву" і бацькі дзяцей, якія загінулі ў 1999г. на Нямізе падчас масавага "сьвята піва", пратэстуюць супраць спыненьня крымінальнай справы па факце гэтай трагедыі.***

Як вядома, на мінулым тыдні аб спыненьні справы абвесьціў менскі судзьдзя Пётар Кіркоўскі. Такім чынам у краіне няма адказных за трагічную сьмерць 53-ох дзяўчатаў і юнакоў. Кіраўнік "Прававой дапамогі насельніцтву" Алег Воўчак і старшыня цэнтру сацыяльнай абароны "Няміга-99" Натальля Навакоўская правялі з гэтай нагоды прэсавую канфэрэнцыю. Яны паведамілі, што беларускае грамадзтва ня можа спакойна прыняць рашэньне аб тым, што за трагедыю няма адказных. Справа ня ў тым, каб абавязкова пасадзіць за краты каго-небудзь зь міліцэйскіх чыноў, якія па службе адказваюць за грамадзкі парадак падчас масавых мерапрыемстваў. Справа ў судовым прызнаньні самога факту трагедыі, што магло б станоўча адбіцца на маральным стане грамадзтва і даць падставу для атрыманьня бацькамі загінуўшых матэрыяльнай кампэнсацыі.

Дарэчы, судзьдзя прыняў рашэньне аб спыненьні справы, калі на судзе не было бацькоў ды іхных прадстаўнікоў. Натальля Навакоўская, у якой загінула 16-гадовая дачка, прызнаецца, што "была літаральна ў шоку, калі чытала судовае рашэньне".

Па законе бацькі цяпер ня маюць самастойнай магчымасьці абскардзіць гэтае рашэньне. Зрабіць гэта можа толькі Генэральная пракуратура. Праваабаронцы зьвярнуліся да В.Шэймана з адпаведным патрабаваньнем і прапановай аднавіць судовыя працэс па факту трагедыі на Нямізе. Да гэтага заклікy, дарэчы, далучыўся кіраўнік сьледчай групы, які прысутнічаў на прэс-канфэрэнцыі й таксама выказаў зьдзіўленьне з нагоды судовага рашэньня.

*Альгерд НЕВЯРОЎСКІ*



Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта. Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.

Штотыднёвік

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.

E-mail: krug@user.unibel.by

Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Сьпірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 15. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 11.04.2002 г. а 17.05